

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА ШУМІЛІНШЧЫНЫ

# СЬВІТАНАК

Беларусь, твой народ дачакаецца Залацістага, яснага дня! М. Багдановіч.

№14 (250) ВЕРАСЕНЬ 2018 ГОД


ГАНДАЛЬ

## АДКРЫЎСЯ ЕЎРАОПТ

**Гандлёвая сетка маркі Еўраопт пашыраецца: ў Шуміліне адкрыўся яшчэ адзін новы магазін.**

Адметная для жыхароў Шуміліна і суседніх населеных пунктаў падзея адбылася ў пятніцу 14 верасня. Магазін «Еўраопт» фармату «Маркет» адкрыўся ў цэнтры горпасёлка па вуліцы Ленінскай, які размясціўся ў будынку былога «Універсама», стаў чарговым гандлёвым аб'ектам сеткі «Еўрагандаль», ( філіял у горадзе Віцебску.)

Магазін пакупнікам адчынілі супрацоўнікі філіяла. Шумілінцы і госці раёна ўжо масава наведваюць гэты магазін некалькі дзён запар. Раней у гэтым будынку месціўся магазін прадуктаў "Універсам" Шумілінскага райспажыўтаварыства, якое канчаткова збанкрутавалася.

Затое цяпер новыя гаспадары правялі рэканструкцыю пад новы магазін. Зараз гандлёвая плошча «Еўраопта» Маркет - 400 кв. метраў сапраўды ўражвае багаццем тавару і сучасным, стрыманым дызайнам. У памяшканні вельмі прасторна і камфортна, а на самым уваходзе будынку, па традыцыі, пра святочнае адкрыццё нагадвае каляровая гірлянда з паветраных шароў.

Персанал магазіна – 18 работнікаў, прычым усе, хто працаўладкаваўся сюды — шумілінцы, для якіх з'явілася ўдачная магчымасць атрымаць рабочыя месцы.

Гандлёвы аб'ект мае сучаснае абсталяванне, прывабны знешні выгляд, вызначаецца як дызайнерскімі рашэннямі ў афармленні гандлёвай залы, так і якасцю абслугоўвання, рэжымам работы — з 9 гадзін раніцы да 9 гадзін вечара, без абеда і без выхадных. Для шматдзетных па дысконтным карткам робіцца зніжкі ў межах да 5%.

Асноўны профіль магазіна — харчовыя тавары. Іх асартымент: ад свежых фруктаў і гародніны, прысмакаў, бакалеі сокаў і напояў — да каўбас і паўфабрыкатаў, малочнай прадукцыі, хлебабулачных вырабаў, дзіцячага харчавання.

З навінак - кулінарны аддзел і цэх дапякання гатовай прадукцыі.

Расклад гарачай выпечкі.

Асартымент тавараў даволі разнастайны: чай, кава, пячэнне, цукеркі, шакалад, арэхі, чыпсы, кансервы, розныя прыправы.

Маецца секцыя тавараў бытавой хіміі.

Халадзільныя камеры пастаянна папаўняюцца пельменямі, варэнікамі, марозівам, рыбай, мясам іншымі кулінарнымі вырабамі. Ёсць выбар алкаголю: прадаецца піва, віно, гарэлка — карацей кажучы, усе тавары паўсядзённага попыту.

Зручнае размяшчэнне магазіна ўздоўж цэнтральнай вуліцы і вялікае месца для паркоўкі, стаянкі для веласіпедаў таксама павінны прывабіць наведнікаў. І безумоўна, гэтыя перавагі дапамагуць шумілінцам сэканоміць як грошы, так і час.

Праўда, нярэдка аўтааматары выказваюць пажаданне, каб мясцовыя ўлады ўсё ж такі заасфальтавалі аўтастаянку. Бо калі сухое надвор'е, яе стан задавальняе, аднак пасля дажджу тут з'яўляюцца грязныя лужыны ў ямках - тады нязручна высаджваць пасажыраў.

**Алесь Шумскі**

З ЗАЛЫ СУДА

## ВЫЗВАЛІЛІ АД ПАКАРАННЯ

**Галоўбуха з Шуміліна, які падрабіў даведкі, каб выплаціць людзям заробкі, вызвалілі ад пакарання.**

Былога галоўнага бухгалтара сельгаспрадпрыемствы ў Шумілінскім раёне Васіля Найдзёнка, які падрабіў подпіс, каб выплаціць людзям заробкі, – і трапіў пад "крыміналку", вызвалілі ад штрафу ў суме 7350 рублёў. Нагадаем, што Васіль Найдзёнак працаваў галоўным бухгалтарам у КУСП «Мішневічы» Шумілінскага раёна. У гаспадаркі былі арыштаваныя ўсе рахункі, на якія павінны былі прыходзіць грошы: мелася вялікая запазычанасць па плацяжах у ФСАН, у ІМПЗ, «Белдзяржстрах».

Каб выплаціць заробак працаўнікам, галоўбух павінен быў зрабіць для банка даведкі са звесткамі аб выкананні абавязацельстваў з электронна-лічбавым подпісам. Гэта значыць, у іх паказвалася, што «ФСАН выкананы», «пенсійны фонд выкананы», «страхавыя ўнёскі ў "Белдзяржстрах" выкананы» Банк бачыў, што запазычанасцяў няма, і пералічваў прадпрыемству грошы, якія ішлі на зарплату.

Акрамя таго, Васіль Найдзёнак падпісаў дзве такія ліпавыя даведкі. Адну – у студзеня 2017-га, другую – у траўні таго ж года. Так ён трапіў пад крымінальную справу. Маладога спецыяліста абвінавацілі ў службовым падлогу – унясенні службовай асобай заведама ілжывых звестак і запісаў у афіцыйныя дакументы, учыненым з карыслівай ці іншай асабістай зацікаўленасці.

У сакавіку 2018 году суд Шумілінскага раёна аштрафаваў Найдзёнка на 300 базавых велічынь (7350 рублёў).

Васіль Найдзёнак абскардзіў гэтае рашэнне ў абласным судзе. У траўні калегія абласнога суда пакінула прысуд раённага суда без змянення. Пасля гэтага экс-галоўбух падаў скаргу старшыні абласнога суду Мікалаю Хамічонку.

Старшыня Віцебскага абласнога суда прынёс наглядны пратэст на прысуд суда Шумілінскага раёна, апеляцыйнае вызначэнне судовай калегіі абласнога суда. Прысуд быў зменены. Васіль Найдзёнак асуджаны за здзяйсненне службовай падробкі, але крымінальнае пакаранне яму не прызначанае – у адпаведнасці з артыкулам 79 КК Беларусі.

Артыкул 79 КК (Асуджэнне без прызначэння пакарання): «Калі ў працэсе судовага разгляду крымінальнай справы ў дачыненні да асобы, якая ўчыніла ўпершыню злачынства, якое не ўяўляе вялікай грамадскай небяспекі, або меншцяжкае злачынства, будзе прызнана, што з прычыны працяглага бездакорных паводзін пасля здзяйснення злачынства гэта асоба даказала сваё імкненне да законапаслухмянаму паводзінам і з улікам характару і ступені грамадскай небяспекі здзейсненага злачынства, асобы вінаватага яго далейшае выпраўленне магчыма без прымянення пакарання, але пры ажыццяўленні за ім прафілактычнага назірання, суд можа вынесці такой асобе абвінавачў прысуд без прызначэння пакарання».

**ТУТ ВУ**

**Пераклад з расейскай рэдактара**

*ПАРТАЛ ТВАЙГО ГОРАДА: HTTP://SHUMILINA.BY*

ЭКАЛОГІЯ

## АГРЭСІЎНАЕ ПУСТАЗЕЛЛЕ

**Яшчэ адзін «зялёны акупант» — расліна-забойца заваёўвае Шумілiншчыну**

Сумнік канадскі або (золотарник канадский) — цяпер яго можна ўбачыць практычна як па ўсяму раёну, так і ў райцэнтры Шуміліна. Аднак тут мала хто ведае, што за аблічам прывабнай жоўтай кветачкі хаваецца надзвычай шкодная для беларускай прыроды расліна.

Зараз ён лічыцца адным з самых злосных відаў пустазелля. Экологі папярэджваюць: па ступені небяспекі для навакольнага асяроддзя і дабрабыту чалавека гэты чужародны від знаходзіцца ў адным шэрагу з баршчэўнікам і каларадскім жуком.

Адметна тое, што сумнік стварае суцэльныя зараслі, сярод якіх ужо не існуе ніякіх іншых раслінаў — агрэсіўная расліна іх выцясняе. Аднак людзі часта банальна не ведаюць пра яго шкоднасць ды самыя высаджваюць сумнік на сваіх участках як дэкаратыўную расліну — адсюль ён і распаўсюдзіўся па краіне.

Наш карэспандэнт праехаў па райцэнтры, апытаў жыхароў і ўпэўніўся ў тым, што канадскі сумнік распаўсюдзіўся па мястэчку і ўжо нядрэнна прыжыўся тут. Да прыкладу, кожны на сваё вочы зможа ўбачыць зараслі сумніка ў балотцы каля будынка «Белтэлекам» (напрыканцы вуліцы Ленінскай), на абочыне дарогі на перакрыжаванні вуліцы Ленінскай і Кірава, каля прыватных дамоў за чыгуначнай лініяй, на абочыне дарогі каля будынка прадпрыемства «Віткoнпрадукт", на узмежжы прыватных падворкаў.

Жыхары Шуміліна, Сяргей: «Асаблівага значэння не прыдаваў». На ускрайку агарода бывае зарастае ну і зарастае. А калі спытаеш яшчэ каго — дык ніхто і не звяртае ўвагі".

Аляксандр: «Упершыню чую, што гэта нейкі сумнік канадскі. У суседзяў наогул такая расліна ў палісадніку расце і нічога, нікому не замінае.»

Як бачна, далёка не ўсе шумілінцы ведаюць пра небяспечнае пустазелле, не кажучы ўжо пра тое, што змагаюцца. У асноўным наш тутэйшы люд прымае яго за бяскрыўдную кветачку.

Раней у Беларусі існавалі і свае віды сумнікаў, аднак яны не настолькі агрэсіўныя, таму асабліва заўважнымі не былі. Канадскі ж сумнік быў завезены ў Беларусь з Паўночнай Амерыкі на пачатку 20 стагоддзя ў якасці дэкаратыўнай расліны. А пасля натуральным чынам выведзеныя і гібрыды яго з мясцовымі гатункамі, якія зрабіліся яшчэ больш трывалымі і небяспечнымі для іншых раслінаў.

Цяпер сумнік канадскі хутка замацоўваецца на лугах, пашах, выганах, меліяраваных балотах, пустках, лясных узлесках, высечках. Яшчэ адну пагрозу нясе засяленне сумнікам лясоў, дзе ён распаўсюджваецца па ўзлесках і высечках. Апошні маніторынг навукоўцаў паказаў: хуткасць экспансіі сумніка вельмі высокая, і за 10-15 гадоў ён папросту знішчыць лугі.

Паводле Аркадзя Скуратовіча, старэйшага навуковага супрацоўніка НАН Беларусі, у карэнішчы сумніку змяшчаюцца спецыяльныя рэчывы, што інгібіююць, прыгнятаюць іншыя расліны. Адпаведна выходзіць, што першы адмоўны момант — ужо нашай флоры не будзе. Калі няма флоры, то няма суніцаў, няма чарніцаў — ягадаў таксама не будзе. А ў такім гушчары і грыбоў таксама — ні маслякоў, ніякіх падбярозавікаў мы ўжо таксама не знойдзем. Менавіта па гэтай асаблівасці Мінпрыроды ўключыла яго ў спіс самых агрэсіўных інвазівных (здольных пранікаць у іншы арганізм і распаўсюджвацца ў ім, не даючы размнажацца) раслін.

На думку навукоўцаў, дзеля недапушчэння такой сітуацыі варта як мінімум знішчаць сумнік на сваіх участках, а таксама побач з імі, не даць расліне распаўсюдзіць шматлікае насенне. А пакінутыя палеткі, дзе сумніку найбольш, варта пераараць і засадзіць айчыннымі шматгадовымі раслінамі.

Адзін куст гэтай расліны дае штогод 150 тысячаў адзінак насення, з якога можа ўзысці больш за палову. Паводле некаторых ацэнак, за апошнія 10 гадоў плошча сумніку вырасла ў чатыры разы, таксама істотна ўзрасла шчыльнасць. Навукоўцы ды экологі пачынаюць біць трывогу і заклікаюць людзей змагацца з гэтай агрэсіўнаю расліна.

Аднак пакуль што адпаведнай працы з боку дзяржавы і мясцовых уладаў як у інфармаванні насельніцтва, гэтак і ў сістэмнай барацьбе з сумнікам ды іншымі шкоднымі інвазійнымі відамі не заўважана. Апроч таго, што рабочыя жыллёва-камунальнай гаспадаркі раз-пораз абкошваюць пустазелле на вуліцах і дарогах.

**У. Амбросаў**

УЛАДА

# КАБ СІТУАЦЫЯ НЕ ПАГОРШЫЛАСЯ

**На чарговай восьмай сесіі райсавета дэпутацкі актыў раёна, кіраўнікі прадпрыемстваў і арганізацый раёна абмяркоўвалі шэраг актуальных пытанняў.**

У прыватнасці, былі заслуханы даклады "аб рабоце органаў мясцовага кіравання і самакіравання па забеспячэнні ўстойлівага сацыяльна-эканамічнага развіцця рэгіёна". Сесія праводзіла старшыня райсавета Ірына Новікава.

Паводле справаздачы чыноўнікаў, у раёне назіраецца станоўчая дынаміка і забяспячэнне выканання планавых заданняў трох з пяці важных паказчыкаў. А гэта: тэмп росту экспарту тавараў, экспарту паслуг і ўзровень зніжэння выдаткаў. У той час як даныя сведчаць аб тым, што з трынаццаці асноўных паказчыкаў Шумілінскім раёнам не выконваецца шэсць. Прынамсі, не забяспечана выкананне паказчыка па прыцягненні ў раён прамых замежных інвестыцый, працаўладкавання насельніцтва на створаныя новыя рабочыя месцы за кошт новых прадпрыемстваў і вытворчасцях і іншыя.

Дэпутаты у сваю чаргу зацвердзілі гэтак званы "План індустрыялізацыі Шумілінскага раёна да 2025 года", прынялі адпаведныя рашэнні па ўдакладненні расходаў і даходаў раённага бюджэта.

Напрыканцы мерапрыемства перад прысутнымі выступіў намеснік старшыні райвыканкама па пытанням будаўніцтва і жыллёва-камунальнай гаспадаркі Алег Быкаў, кія праінфармаваў аб перспектыўных планах па стварэнні ў Віцебскай вобласці холдынгу, куды павінны будуць увайсці сельгаспрадпрыемствы.

Дарэчы, Алег Быкаў зараз выконвае абавязкі старшыні Шумілінскага райвыканкама. А куды падзеўся былы старшыня райвыканкама Аляксандр Снараў ужо з месяц таму – дакладна не ведае ніхто. Афіцыйных паведамленняў на гэты конт дагэтуль не было, акрамя таго, што даныя яго прозвішча, займаемая пасада і фота раптам зніклі з сайта Шумілінскага райвыканкама. Такім чынам, зараз Шумілішчына працуе без зацверджанага прэзыдэнцкай вертыкаллю кіраўніка.

**Ян Вайтовіч**

ЗДАРЭННІ, КРЫМІНАЛ

# ХАТНІ ГВАЛТ У МІШНЕВІЧАХ

**Падчас сваркі сын кінуўся на маці і стаў наносіць ёй пабоі драўляным бруском на галаве, спіне і руцэ. Менавіта такі факт быў зарэгістраваны ў аграгарадку Мішневічы.**

Жанчына адмовілася пісаць заяву ў міліцыю. Аднак нягледзячы на тое, крымінальная справа па ч. 1 арт. 149 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь была ўзбуджана пракуратурай раёна.

Цяпер максімальнае пакаранне, якое пагражае сыну за пабоі маці, – пазбаўленне волі да трох гадоў.

**Сяржук Крупскі**

# ПРАЯВІЎ ПІЛЬНАСЦЬ

**Супрацоўнікі ДАІ вельмі ўдзячны нераўнадушнаму жыхару Шуміліна, які заўважыў, што за рулём «Масквіча» едзе нецвярозы вадзіцель.**

Інфармацыя пацвердзілася і на вуліцы Юбілейнай быў затрыманы жыхар суседняга Віцебскага раёна, які у нецвярозым стане кіраваў аўтамабілем.

Да таго ж, мужчына не меў пры сабе правоў кіравання. На вадзіцеля былі складзены два пратаколы. Цяперямупагражае пазбаўленне вадзіцельскіх правоў на тры гады, забарона займацца дзейнасцю, звязанай з кіраваннем транспартных сродкамі, і штраф да 100 БВ.

**Сяржук Крупскі**

ШКОЛА МІРУ

# ЮНЫЯ ПАСЛАНЦЫ МІРУ

**21-21 верасня ў Гарадку сабраліся вучні і настаўнікі раённай гімназіі, абедзвюх шумілінскіх школ разам са старшынёй раённай арганізацыі "Беларускі фонд міру" Людмілай Шаўцовай.**

Тут з удзелам кіраўніцтва вобласці і Гарадоцкага раёна была адкрыта першая ў Віцебскай вобласці "Школа міру". Відавочна, падзея была прымеркавана да Міжнароднага дня міру, які па традыцыі адзначаюць 21 верасня. У якасці ганаровых гасцей свята выступілі старшыня абласнога Савета дэпутатаў Уладзімір Цярэнцьеў, кіраўнік Віцебскай абласной арганізацыі «Беларускі фонд міру» Тацццяна Туманава, кіраўніцтва вобласці і раёна.

Менавіта ў гэтыя дні ў вёсцы Кабішча на базе загараднага аздараўленчага лагера "Арыён" адбыўся злёт юных пасланнікаў міру. Злёт аб'яднаў у адзінай акцыіі больш за 70 хлопчыкаў і дзяўчынак - школьнікаў Гарадоцкага, Шумілінскага раёнаў і мястэчка Дзядзенева Маскоўскай вобласці. Таксама для іх была арганізавана навукова-практычная канферэнцыя "Вайна ў лёсе маёй сям'і", інтэлектуальная гульня "Дзеці міру", а таксама тэматычная фотасушка.

І беларуския, і расійскія школьнікі з захапленнем выказваліся пра час, праведзены разам. Усе спадзяюцца на далейшае сяброўства і такія вось цёллыя і сардэчныя сустрэчы.

Надалей «Школа міру» ў Гарадку будзе дзейнічаць у некалькіх напрамках: аказанне валанцёрскай дапамогі ветэранам вайны і працы, удзел у добраўпарадкаванні і рэканструкцыі воінскіх пахаванняў, пошукавая работа па ўвекавечанні памяці абаронцаў Айчыны. Пра стварэнне «школы міру» ў іншых рэгіёнах ужо заявілі Міёрах, Глыбокім і Шаркоўшчыне.

**Алесь Прыбярэжны**

РЫБАЛКА

# АБ ЗАБАРОНЕ ТРОЛІНГУ

**На чатырох азёрах Шумілінскага раёна забароненыя тролінг і падводная паляванне.**

А ўсяго больш чым на 80 азёрах і участках рэк Віцебскай вобласці забаронена лоўля на дарожку з суднаў з рухавікамі і падводнае паляванне. Пра гэта паведаміў намеснік начальніка аддзела абласной інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету Вячаслаў Салдатаў.

Поўны пералік рыбалоўных угоддзяў фонду запасу, на якіх дзейнічаюць абмежаванні ў Шумілінскім раёне:

– возера Будовесть – лоўля рыбы на дарожку з суднаў з рухавікамі, падводнае паляванне;

– возера Лезвінка – лоўля рыбы на дарожку з суднаў з рухавікамі, падводнае паляванне;

– возера Мошны-Расалай (2 км на паўночны ўсход ад в. Роўнае) – лоўля рыбы на дарожку з суднаў з рухавікамі, падводнае паляванне;

– возера Сосны – лоўля рыбы на дарожку з суднаў з рухавікамі, падводнае паляванне.

**Алесь Прыбярэжны**

НАША ЗДАРОЎЕ

# КОЖНЫ ТРЭЦІ – У ГРУПЕ РЫЗЫКІ

**База дадзеных пацыентаў з высокай рызыкай смерці ад сардэчна-сасудзістых захворванняў будзе створана на Віцебшчыне да канца года.**

Адзіная база дадзеных пацыентаў з высокай рызыкай смерці ад сардэчна-сасудзістых захворванняў будзе створана да канца года на Віцебшчыне. Пра гэта паведамілі ў абласным кардыялагічным цэнтры.

Сардэчна-сасудзістыя захворванні былі зарэгістраваны ў 2017 годзе ў кожнага трэцяга дарослага жыхары Віцебшчыны, ці ж у больш 325 тыс. чалавек, прычым амаль палова пакутавала артэрыяльнай гіпертэнзіяй.

– Ад кожнай тэрытарыяльнай паліклінікі запытваем не проста статыстыку, як раней, а пайменны спіс пацыентаў, каб спецыялісты цэнтра, выязджаючы ў раён, маглі азнаёміцца з амбулаторнай картай канкрэтнага чалавека, прасачыць ход лячэння, а дзякуючы электронным рэцэпце праверыць, як выконваюцца прызначэння лекара. Спросціць задачу такога назірання якая ствараецца ў галіне адзіная электронная база ўстаноў аховы здароўя. У той жа час трэба разумець: нават калі сёння выявілі людзей з групы рызыкі, то заўтра сітуацыя па праблеме сардэчна-сосудзістых захворванняў у корані не зменіцца, вынік з'явіцца праз некалькі гадоў, і то пры адладжанай, правільнай працы. Зараз мы ствараем пляцоўку для далейшага ўдасканалення кардыялагічнай службы і зніжэння колькасці інфарктаў міякарда, - каментуе галоўны пазаштатны кардыёлаг галоўнага ўпраўлення па ахове здароўя аблвыканкама Уладзіслаў Падпалаў.

Якія трапілі ў зону ўвагі кардыёлагаў пацыенты своечасова накіроўваецца на дыягнастычныя абследавання, а пры неабходнасці – на каранаграфія і стэнціраванне. Магчымасці такія ў рэгіёне маюцца. Цяпер дзейнічаюць тры ангіаграфічных цэнтра (два ў Віцебску, адзін – у Оршы). Калі за мінулы год было выканана каля 2 тыс. Каранаграфія і больш за тысячу стэнціраванняў на каранарных артэрыях, то толькі за паўгоддзе гэтага – 1,3 тыс. І 676 адпаведна.

Кардыёлагі назіраюць, што з удасканаленнем медыцынскай дапамогі пры вострым каранарнай сіндроме і інфаркце міякарда, ужываннем высокатэхналагічнай рэнтгенэндаваскулярнай дыягностыкі і лячэння ў рэгіёне знізілася смяротнасць ад інфаркту міякарда.

Важна адзначыць, што ў 2017-м і першым паўгоддзі гэтага года зменшылася колькасць памерлых ад хвароб сістэмы кровазвароту ў працаздольным узросце.

Кажучы аб папярэджанні ЗСК, медыкі нагадваюць і пра фактары, якія залежаць ад самога чалавека. Так, лад жыцця аказвае вырашальны ўплыў на верагоднасць развіцця сардэчна-сасудзістых захворванняў. Хоць, напрыклад, у Віцебску ўсё часцей можна ўбачыць веласіпедыстаў, фітнес- і трэнажорныя залы поўныя наведвальнікаў, усё ж адзначаецца рост колькасці пацыентаў з залішняй масай цела і атлусценнем.

Аргумент, які прымушае задумацца, прывяла намеснік галоўнага ўрача абласнога кардыяцэнтра Алена Кузняцова:

– Інфаркт міякарда не здараецца на роўным месцы. У 95% выпадкаў ён узнікае, калі каранарны сасуд сэрца забівае атэрасклератычная бляшка, якая не ўтворыцца за адзін дзень, нават на фоне стрэсу. Значыць, былі адпаведныя перадумовы. Таму асабліва важная першасная прафілактыка, прычым яна павінна пачынацца не ў 50-60 гадоў, а нашмат раней. Гэта здаровае харчаванне, фізічная актыўнасць, устойлівасць да стрэсу, а ў старэйшым узросце яшчэ і рэгулярнае абследаванне, кантроль за артэрыяльным ціскам, ліпідным спектрам.

**VitVesti**

**Пераклад з расейскай рэдактара**

## АБ'ЯВА

*• Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Світанак» паведаміце рэдакцыі аб гэтым–зрабіцебесплатную падпіску. Калі не жадаеце атрымліваць газету, то патэлефануйце.*

*• Калі прачыталі "Світанак", то калі ласка, перадайце знаёмым.*

*• Наша газета стала размяшчаецца на партале http://kamunikat.org, дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць са старонкі: http://kamunikat.org/svitanak.html для далейшага выкарыстання яшчэ да з'яўлення газеты на паперы.*

АНАЛІТЫКА

# У ЧЫМ СІЛА, БРАЦЕ, БЕЛАРУСКАЙ ДЗЯРЖАВЫ?

**Уладную «вертыкаль» не варта блытаць з дзяржавай: ніякай задачы, акрамя ўтрымання ўлады, з яе дапамогай вырашыць немагчыма.**




Жнівень для адзінага палітыка (АП) завяршыўся разглядам чарговых кадравых пытанняў. Ён прызначыў і даў згоду на прызначэнне амаль двух дзясяткаў чыноўнікаў: ад міністра фінансаў да дырэктара ААТ «Брэсцкі электралямпавы завод». Адным словам, «вертыкаль». Яе яшчэ, згодна з традыцыяй, часта называюць «кіраўнічая вертыкаль», аднак нядаўні візіт АП у Аршанскі раён паказаў, наколькі беларускі варыянт «вертыкалі» здольны кіраваць.

У тым, што любая ўлада, арганізаваная вертыкальным чынам, нейкіх іншых інтарэсаў, акрамя сваіх уласных, абслугоўваць не ў стане, я і раней ніколі не сумняваўся. І справа тут не ўва мне. Справа ў сусветнай практыцы, якая ў дадзеным пытанні з тэорыяй не разыходзіцца. Але паколькі беларусы з'яўляюцца «рускімі, толькі са знакам якасці», дык і прадстаўнікі беларускай вертыкальнай «дыяспары» без свайго знака абыходзіцца не могуць. Вось толькі ён, хутчэй, з'яўляецца знакам бяды.

Ён не трымаецца ў таямніцы. Пра яго шмат і з веданнем справы гаварыў 31 жніўня АП. Гэта п'янства з нагоды і без нагоды — «і больш за ўсё без нагоды». П'янства «да страты пульсу, і гэта праз дзень або кожны дзень...». Аднак рашэнне прынятае: прафесіяналаў падобнага ўзроўню «ў кіраўніцтве не будзе». Раней былі, і ў значнай колькасці, а цяпер не будзе.

АП сказаў — АП зрабіў. Дакладней, паабяцаў зрабіць. У краіне, у якой дзяржаўная ідэалогія выбудаваная вакол «чаркі і скваркі», прасцей пераламаць «вертыкаль», чым усталяваную традыцыю.

Пэўную надзею, канешне, дае працэс натуральнай змены пакаленняў. Але наколькі новае пакаленне кіраўнікоў зможа супрацьстаяць «зялёнаму змею» — пытанне адкрытае. Веданне замежных моў — так, уменне размаўляць у свеце на адной і той жа мове з фінансістамі — так. Аднак з гэтага не вынікае, што памаладзелае на 20–25 гадоў пакаленне кіраўнікоў не збочыць на пракладзеную папярэднікамі сцяжыну…

«У нас, — як любіў паўтараць лірычны герой Міхаіла Жванецкага, — з сабой было». Ад сябе дадам: было, ёсць і будзе.

**Хто будаваў маякі?**

«Часу на раскачку няма. <…> Ніякай раскачкі — толькі наперад. Я найперш чакаю ад вас жорсткай дысцыпліны на падведамасных прадпрыемствах і вашых міністэрствах. З гэтага трэба пачынаць», — даваў наказ чарговым прызначэнцам АП.

Наперад за кошт жорсткай дысцыпліны. Цікавая кіраўнічая канцэпцыя, пагадзіцеся. Ва ўстанаўленні жорсткай дысцыпліны як у галоўным фактары развіцця былі зацікаўленыя і егіпецкія фараоны, і рымскія імператары. Іншых фактараў яны не ведалі, і па-свойму мелі рацыю, бо цяглічныя высілкі людзей і жывёл заўсёды было выгадна стымуляваць пугай.

Але прамысловая рэвалюцыя пачалася ў Еўропе не ў выніку ўдасканалення пугі, а ў выніку вынаходніцтва паравой машыны і яе масавага ўкаранення на вытворчасці і транспарце. І ўсяму гэтаму свет абавязаны прыватнай ініцыятыве і прыватным грошам. Што да ўкладу кіраўнічай «вертыкалі», то ні на стадыі вынаходніцтва, ні на стадыі ўкаранення зафіксаваць яго не ўдалося.

«Што тычыцца ролі дзяржавы ў эканоміцы, суд пайшоў на нараду і пакуль не вярнуўся», — такое аўтарытэтнае меркаванне нобелеўскага лаўрэата Дугласа Норта. Яго можна смела распаўсюдзіць не толькі на сферу вынаходніцтва і інавацый, але і на стварэнне інфраструктуры. Сцвярджэнне спрэчнае, таму падмацуем яго гістарычным прыкладам.

На працягу 200 гадоў эканамісты былі ўпэўненыя, што маякі ў Англіі будаваліся дзяржавай і за дзяржаўныя грошы. Адпаведныя прыклады мы можам знайсці, у тым ліку, у працах класікаў эканамічнай навукі (Рыкарда, Міль, Кейнс).

Для таго, каб зразумець, чым і як завяршылася ўсеагульная памылка, я прывяду фрагмент з лекцыі эканаміста Аляксандра Аузана: «І тут знайшоўся зануда. Я маю на ўвазе чалавека, які таксама атрымаў Нобелеўскую прэмію па эканоміцы, — гэта Рональд Коуз. Ён вырашыў праверыць, хто будуе маякі. Ён пайшоў у архіў Брытанскага адміралцейства і стаў высвятляць. І прыйшоў да парадаксальнай высновы: маякі будавалі гільдыі капітанаў судоў, асацыяцыі суднаўладальнікаў, мясцовыя супольнасці, але не дзяржава. Так, яны перадаваліся ў кіраванне адміралцейству, але дзяржава гэтага не рабіла».

**Усё пад кантролем**

Сучасныя паспяховыя дзяржавы праблемамі дысцыпліны на прадпрыемствах не займаюцца. Аднак было б сур'ёзнай памылкай лічыць, што яны цалкам самаўхіліліся ад падтрымання парадку. Але падтрыманне парадку на дзяржаўным узроўні не мае ніякага дачынення да барацьбы з п'янствам міністраў. Парадак — гэта закон, прычым закон універсальны.

Вернемся ў калыску прамысловай рэвалюцыі — Вялікабрытанію. У пачатку XIX стагоддзя ў краіне было прынята больш за 200 законаў, якія прадугледжвалі смяротнае пакаранне за эканамічныя злачынствы. На шыбеніцу адпраўлялі з 12 гадоў за шкоду, якая перавышала 6 пенсаў (кошт булачкі).

Жорстка? Звышжорстка. Аднак на стадыі пераходу ад аграрнага грамадства да грамадства індустрыяльнага такая жорсткасць сябе апраўдала. Яе вынікам стаў новы сацыякультурны тып чалавека — «чалавек законапаслухмяны». Яго не варта блытаць з «чалавекам рабалепным», які трымае паставу пакоры ў прысутнасці начальства. Апошні тып у нас шырока распаўсюджаны. Айчыннае тэлебачанне рэгулярна яго дэманструе…

Для людзей, пазбаўленых унутранай крыніцы дысцыпліны і парадку, пастаянна трэба крыніца вонкавая. Ролю такой крыніцы і выконвае ўладная «вертыкаль» з АП на чале. Яму ў чарговы раз я і даю слова: «Патрэбны вынік, патрэбна дысцыпліна. Гэта фактары нашай незалежнасці. Таму што ад гэтага залежыць развіццё эканомікі. Самае страшнае, за што мы павінны «баяцца», — гэта эканоміка. Іншых праблем у нашым грамадстве няма. Усё астатняе мы трымаем жорстка на кантролі. Эканоміка перш за ўсё!»

«Іншых няма праблем». Усё пад кантролем. У тым ліку — скарачэнне колькасці арганізацый, якія выконваюць навуковыя даследаванні і распрацоўкі (з 530 у 2012 годзе да 431 у 2016-м — мінус 18,7%), і зніжэнне колькасці іх персаналу (з 30 437 да 25 942 чалавек — мінус 14,8%).

Спадзяюся, ад шматлікіх кантралёраў са шматлікіх кантралюючых структур не схавалася і істотнае скарачэнне фінансавання навукі з дзяржаўнага бюджэту — з 0,39% да ВУП у 2000 годзе да 0,27% у 2016-м. Гэты паказчык на парадак ніжэй, чым у ЗША і Кітаі (гаворка, зразумела, ідзе пра адносныя лічбы)…

Калі меркаваць па зніжэнні колькасці нацыянальных патэнтаў на вынаходніцтвы (з 1015 у 2006 годзе да 892 у 2016-м), заняткі па страявой падрыхтоўцы беларускія навукоўцы ўжо актыўна распачалі.

* * *

*У 1994 годзе будучы АП падняў «уладу з бруду» і на абломках савецкай уладнай «вертыкалі» выбудаваў «вертыкаль» постсавецкую, якую абвясціў дзяржавай. Аднак падобная вертыкальная канструкцыя калі і мае дачыненне да сучаснай дзяржавы, дык вельмі і вельмі аддаленае.*

*Усё, на што здольная ўладная «вертыкаль», — гэта ўтрымліваць уладу. Пакуль атрымліваецца, але цяжкасці з кожным днём нарастаюць. Таму тэма «захавання стабільнасці» ўвесь час і ўсплывае ў выступах АП.*

**Сяргей Нікалюк**
**"Новы Час"**

ЗАКАНАДАЎСТВА

# «ЭТО ХУДШИЙ ТРУДОВОЙ КОДЕКС В МИРЕ»

**Поправки в Трудовой кодекс изменят временный характер применения контрактной системы на постоянный.**

На осенней сессии Палаты представителей, которая начнется в октябре, депутаты во втором чтении рассмотрят проект поправок в Трудовой кодекс.

Всего предлагается внести изменения в более чем 160 статей кодекса, это 35% документа. Значительная часть правок предложена провластной Федерацией профсоюзов Беларуси. Некоторые из новелл касаются одного из ключевых элементов рынка труда Беларуси — срочных контрактов. Но наемным работникам от этого легче не станет.

**Что внесли в проект нового кодекса?**

Сейчас работающим пенсионерам в случае расторжения контракта по требованию работника в связи с нарушением нанимателем условий контракта выплачивают двухнедельное пособие, а всем остальным — в размере трех среднемесячных зарплат. Планируется, что новый кодекс всех уравняет, и пособие будет выплачиваться за три месяца.

Еще одно новшество — работать по совместительству можно будет больше, правда, только в отпуске. Согласно новой редакции кодекса, по совместительству можно будет работать 40 часов в неделю, находясь в отпуске по основному месту работы.

Поправки также предполагают, что отцам будет предоставлено безусловное право на отпуск до 14 дней в первые полгода после рождения ребенка. Наниматель будет обязан такой отпуск предоставить, хочет он этого или не хочет.

Сейчас работник может запросить неоплачиваемый социальный отпуск по семейно-бытовым обстоятельствам до 30 дней, однако работодатель не обязан его предоставлять.

По текущему законодательству мужчина имеет право уйти в полноценный отпуск по уходу за ребенком до трех лет. Правда, этим правом пользуется чуть более 1% отцов, имеющих детей до трех лет.

Матери и отцы в отпуске по уходу за ребенком смогут подработать — у нанимателя появится право привлекать таких сотрудников к сверхурочным работам, работе в государственные праздники, праздничные и выходные дни и даже направлять в служебную командировку. Все это с письменного согласия, конечно.

Еще один шаг в направлении гендерного равенства — в проекте документа уточняется термин «одинокий родитель»: это не только мать, но и отец, и усыновители. Это очень важно, потому что одинокие родители имеют некоторые дополнительные в сравнении с другими права.

Появится новый вид временного перевода работника к другому нанимателю — на срок до 6 месяцев в течение календарного года. Для этого надо желание основного нанимателя, его договоренность с другим нанимателем и согласие работника.

В новую редакцию включат главу, устанавливающую особенности регулирования труда тех, кто работает дистанционно.

**Что эти изменения значат?**

Некоторые изменения выглядят прогрессивными, но в целом «это худший трудовой кодекс в мире», заявил в комментарии для Naviny.by

***(працяг на стар. 4)***

ЗАКАНАДАЎСТВА

(пачатак на стар. №3)
председатель Белорусского конгресса демократических профсоюзов Александр Ярошук.

Отвлекая общественность некоторыми деталями, «власти забалтывают проблему, рассказывая о положениях, которыми прикрывают введение норм принудительного труда в Беларуси».

Ярошук напомнил, что репрессивные по отношению к работнику меры, в первую очередь контрактная форма найма, определены декретом № 29 от 1999 года.

«Декрет — все-таки не закон, он вводится временно, а вот кодекс, который приводится в соответствие с положениями декрета, — это серьезно, — сказал эксперт. — В действующем кодексе существует прямой запрет на заключение контракта для лиц, имеющих постоянный характер работы (токарь, слесарь, уборщица и т.д.). А вот в проекте нового документа этого положения нет, но есть нормы декрета № 29».

Это значит, говорит Ярошук, что количество работников, которые в скором времени будут трудиться по контракту, достигнет 100%. Международная организация труда (МОТ) выступает за то, чтобы занятость была постоянной. В развитых странах контрактная система используется лишь как элемент временной занятости.

Александр Ярошук считает, что срочные трудовые контракты, которые в Беларуси чаще всего заключаются на один год, — это короткий поводок, на котором наниматель держит работников: захочет уволить — уволит, не захочет опускать на другую работу — не отпустит.

«Это принуждение к труду», — подчеркнул Ярошук. Он обратил внимание, что в проект Трудового кодекса также вошли нормы декрета № 5, согласно которому наниматель имеет право изменять существенные условия труда. Это касается, например, перевода на более низкую зарплату или на неполную занятость.

Сегодня наниматель обязан известить работника о грядущих изменениях всего за 7 дней. Поправки в Трудовой кодекс предусматривают увеличение этого срок до одного месяца. Это означает, что правки придется вносить и в декрет № 5, и якобы соответствующая договоренность уже есть.

Отменить систему краткосрочных трудовых контрактов вместе с декретом «О содействии занятости населения» призывали белорусское правительство международные профсоюзные организации.

«С одной стороны, правительство предлагает трудящимся временные контракты, из-за которых трудоустройство носит неустойчивый характер, а с другой стороны, когда люди становятся безработными, с них взимаются какие-то дополнительные средства», — отмечал во время визита в Беларусь помощник генерального секретаря глобального профсоюза IndustriALL Кемаль Озкан.

Александр Ярошук выразил сожаление, что международные организации, включая МОТ, в течение продолжительного времени не воспринимали достаточно критично то, что происходит на рынке труда Беларуси, доверяя логике властей, представители которой заверяют, что белорусское трудовое законодательство не нарушает прав трудящихся.

«Мы же настаиваем, что система срочных контрактов является системой принудительного труда и нарушает права работников. Я надеюсь, нам удастся обратить внимание международных организаций на изменения в Трудовом кодексе, которые делают Беларусь страной временной занятости», — подытожил Александр Ярошук.

**Елена Спасюк**
**"БЕЛАПАН"**

САМАПАВАГА

# «КОД БУЛЬБАША» ЯК ЗНАК НЕПАВАГІ ДА СЯБЕ

**«Слуцкі хлебазавод» у афіцыйным дакумэнце цьвердзіць, што слова «бульбаш» у назьве не супярэчыць заканадаўству Рэспублікі Беларусь. Грамадзкія актывісты заяўляюць, што Інстытут мовазнаўства адмовіўся даваць заключэньне наконт слова «бульбаш». То бок, абразьлівае гэтае слова ці не — афіцыйна дагэтуль не заяўлена.**

Тамсама па спасылцы ёсьць відэа, дзе некалькі менчукоў рознага ўзросту і полу кажуць, што слова «бульбаш» добрае і што «лабус», «пшэк», «хахол» — таксама нармальныя словы.

Што да людзей з вулічнага апытаньня, для мяне тут гаворка пра агульны культурны ўзровень. Я памятаю, як на пачатку 1990-х Менск быў усланы шалупіньнем ад семак. Пляваліся ўсе і паўсюль. Цяпер — не. Памятаю, што мацерных словаў у публічнай прасторы гучала болей. Цяпер значна меней. Людзі з вулічнага апытаньня, якія ўхваляюць слова «бульбаш», для мяне — з эпохі семкавага шалупіньня, калі разам з лаянкай былі распаўсюджаныя абразьлівыя мянушкі для этнасаў і рас.

Але ў кадры апытаньня ёсьць і досыць маладыя людзі, якія на пачатку 1990-х толькі нарадзіліся. Менавіта яны паўтараюць папулярную гандлёвую марку са словам «бульбаш». Дэ-факта дзяржава і ўзаконіла абразьлівую мянушку. Ды яшчэ, як вішанька на торце абразы, — літара «Ъ» на канцы назвы, якая шмат у каго асацыюецца з расейскім каляніялізмам царскіх часоў.

Узаконенаму «бульбашу» як брэнду ў канцы лістапада будзе чатырнаццаць гадоў. За гэты час сьледам за гарэлкаробамі падцягнуліся іншыя вытворцы. Забаўляльны комплекс «Поедем-поедим», збудаваны ў ахоўнай зоне Курапат, пачынаўся як «БульбашЪ-холл». Сьледам і дзяржаўныя прадпрыемствы далучыліся да бульбашызацыі краіны. Сярод іншых — «Слуцкі хлебазавод», які адзначыўся разгорнутым тлумачэньнем назвы гатунку «Бульбаш» як візітоўкі Беларусі за мяжой.

Зьнішчэньне ліцэяў, гуманізацыя Сталіна і легалізацыя «бульбаша» як нацыянальнага брэнда — гэта ўсё зьявы аднаго шэрагу. Гэта спрыяньне культурнай дэградацыі на агульнадзяржаўным узроўні.

У прынцыпе, гаворка пра агульны ўзровень людзей, якія кіруюць краінай. Вось нейкі чыноўнік у 2004-м зацьвердзіў сваім подпісам назву «БульбашЪ». Можа, той чыноўнік сам сябе так называе і думае гэтак жа, як і група менчукоў з вулічнага апытаньня. А вось хтосьці заўважыў першую партыю прадукцыі і не зрэагаваў. Не напісаў скаргу, не падаў у суд.

А што цяпер рабіць Інстытуту мовазнаўства? Прызнаць абразьлівы характар слова? Дык гэта зьнішчэньне ці ня самага папулярнага алькагольнага (і ня толькі) брэнда. Гэта ж мінус грошы ў казну дзяржавы. Вось і выбар: сказаць праўду ці зэканоміць казьне грошы, называючы чорнае белым.

«Код бульбаша» — гэта код непавагі да сябе. Магчыма, непавага ўзьнікла праз выхаваньне ў штодзённым чалавечым прыніжэньні, якое занізіла ўласную самаацэнку і пачуцьцё чалавечай годнасьці ў вялікай часткі беларусаў.

Тыя, хто зарабляе на псыхалягічных праблемах грамадства, — цынікі, якія рана ці позна мусяць атрымаць грамадзкую ацэнку сваёй дзейнасьці і панесьці рэпутацыйныя страты. Я ўпэўнены што ў Інстытуце мовазнаўства дастаткова спэцыялістаў, якія здатныя патлумачыць, што слова «бульбаш» — абразьлівае. Зрэшты, сама шырокая дыскусія з прыцягненьнем прадстаўнікоў дзяржаўных інстытуцый дапамагла б высьветліць, хто ў Беларусі бульбаш, а хто беларус.

**Севярын Квяткоўскі**

ТАКАЯ АДУКАЦЫЯ

# КРАІНА ПЕРАФАРБОЎВАЕ ВАЛАСЫ

**Калі ўявіць сабе ўсё гэта ў маштабе, калі пабачыць скрозь сьцены і дахі, калі праляцець гэтымі днямі над Беларусьсю чароўным квадракоптэрам, то можна пабачыць, як у Горадні і Віцебску, у Берасьці і Гомелі, у Івацэвічах і Рудзенску, у Петрыкаве і Мядзелі школьнікі перафарбоўваюць валасы ў натуральныя колеры.**

Нехта проста перафарбоўвае — ну прыкапаліся дарослыя, ну што зробіш. Нехта дзеліцца з сяброўкай крыўдай і злосьцю — чым перашкаджалі ім мае фіялетавыя кудзеркі? Нехта шмыгае носам пад суворым матчыным позіркам. Але з кожным днём на Беларусі менее дзяцей з пафарбаванымі валасамі.

«А калі яны ўсе пафарбуюцца ў розныя колеры і прыйдуць у клясу, што гэта будзе?!» — адказала пытаньнем на пытаньне строгая чыноўніца ад адукацыі («А што ня так з пафарбаванымі валасамі?» — спыталіся ў яе). Я сумленна паспрабавала ўявіць сабе, што гэта будзе. Уявіла. Будзе кляса дзяцей з пафарбаванымі валасамі. Кляса як кляса, батанікі — на месцы, хуліганы — таксама, ніхто ня стаў разумнейшым ці дурнейшым, горшым ці лепшым, проста ў іх пафарбаваныя валасы.

Я ведаю адну жанчыну — яна сочыць за дрэскодам у адной школе. Па праўдзе, яна там наогул загадвае выхаваўчай часткай. Тры дні таму яна пры іншых дзецях накрычала на дзевяцікласьніцу за тое, што дзяўчынка прыйшла ў школу не заплеценая. «Што?! Ты ў люстра сябе бачыла?! Лахудра! Што гэта за выгляд?! Пайшла адсюль! Села яна! Ты ня маеш права тут знаходзіцца, вучаніцы так не выглядаюць!» Цікава, чаму ў школах па сёньня не забаранілі дарослае хамства, затое забаранілі пафарбаваныя валасы?

Так, яны вельмі крутыя — сёньняшнія дзеці. Яны расьлі бяз голаду і галечы, мамы і таты вадзілі іх у адукацыйныя цэнтры і на грунтоўныя заходнія мульцікі, чыталі ім скандынаўскія казкі і раз-пораз ставілі альбомы Лявона Вольскага. Гэтыя дзеці любяць свабоду і ведаюць, што маюць на яе права. Іх цяжка спалохаць. Яны прызвычаіліся, што іх погляды маюць права на існаваньне. Яны фарбуюць валасы ў сіні і ружовы. Яны гатовыя супрацьстаяць дарослым, у кожным разе — у пытаньні колераў. Напэўна, некаторыя дарослыя могуць палічыць гэта дзяржаўнай небясьпекай.

Тады гэтыя дарослыя кінуць распрацоўваць новыя праграмы і падручнікі. Забудуцца на рэформы і кампэтэнтнасныя падыход. Стануць адзіным фронтам. І не дазволяць! Не дазволяць! Ніякіх! Пафарбаваных! Валасоў! У самы бліжэйшы час школы павінны будуць распрацаваць унутраныя дакумэнты. Склікаць бацькоўскія сходы. Пераадолець супраціў. І зрабіць так, каб ва ўсіх дзяцей былі валасы строга абазначаных колераў.

Гэта краіна, у якой мы жывём. У яе такія правілы. Большасьць дарослых ва ўладзе лічыць пафарбаваныя валасы небясьпечнымі. Што ж. Мабыць, так і трэба. Мабыць, і сапраўды. Дачушка, ну што ўжо. Ну давай. Будзем перафарбоўваць. Я сказала — перафарбоўваць! А ну марш у цырульню!

Я хацела папрасіць бацькоў. Якое б рашэньне не прынялі вашы дзеці — перафарбоўваць ці не перафарбоўваць бядовую сваю галаву — проста падтрымайце іх. Не станавіцеся на бок сыстэмы — станьце на бок дзіцёнка. Вырашыць ён ісьці на кампраміс і фарбавацца па правілах — гэта рашэньне, вартае павагі. Вырашыць супраціўляцца — тым больш павагі вартае. Як бы тое не было — давайце іх падтрымаем. Няма такога абавязку ў бацькоў — быць зброяй у руках дзяржавы. Абараняць і падтрымліваць сваіх дзяцей — такі абавязак у нас ёсьць.

І я хацела папрасіць дзяцей. Дзеці. Якога б колеру не былі вашыя валасы сёньня і заўтра. Ніколі, ніколі не забывайцеся на тое, як сьмешна, недарэчна і жаласна выглядаюць дарослыя, якія замест важных дарослых справаў патрабуюць ад дзяцей перафарбоўвацца.

**Ганна Севярынец**
**"Радыё Свабода"**

**Заснавальнік:** Салодкі Сяргей Аляксандравіч
**Рэдактар:** Шчамлёў Аляксандр Міхайлавіч

**Адрас рэдакцыі:** 211262, Шумілінскі раён, п/а Амбросавічы.
Тэл. 3-73-74, маб. +375299870742.
Газета выдаецца з верасня 2000 г.

**Падпісана да друку 30.09.2018 у 16.50**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца пры дапамозе аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.